

# ЗВЯЗДА

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

ВЫДАЕЦЦА З 9 ЖНІЎНЯ 1917 Г.

2 ЛЮТАГА 2001 г. ПЯТНІЦА

№ 25 (24141)

КОШТ 53 РУБЛІ


## РОЗГАЛАС

### На выхадныя нас крыху падмарозіць

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў аддзеле доўгатэрміновых прагнозаў Беларускага гідраметцэнтра, актыўны міжземнаморскі цыклон гэтымі днямі перамясціўся праз Украіну ў цэнтр Расіі. Калі ён праходзіў праз нашу краіну, то ў паўднёвай частцы Гомельскай і Магілёўскай абласцей назіраліся моцныя снегапады. Паводле даных на 9 гадзін раніцы, 1 лютага ў Мазыры і Васілевічах снежнае покрыва ўжо дасягала 16 сантыметраў.

Аднак адразу за снежным цыклонам на тэрыторыю краіны завітаюць паўночныя вятры. Такім чынам, ужо ў выхадныя ў рэспубліцы будзе гаспадарыць халоднае паветра з арктычнай часткі кантынента. У суботу і нядзелю будзе назірацца невялікі снег, а тэмпература паветра ўдзень панізіцца да 6—11, уначы — да 8—13 (пры праясненнях — да 18 градусаў марозу).

У першы дзень наступнага тыдня маразы арктычнага паходжання будуць яшчэ трымацца. А вось у аўторак яны пачнуць паступова слабець. Справа ў тым, што ўжо ў сярэдзіне наступнага тыдня на месца арктычнага антыцыклону прыйдзе мяккае і вільготнае паветра з захаду Атлантыкі. Адлігі ў гэты час не чакаецца, але і марозіць будзе ледзь-ледзь.

**Сяргей КУРКАЧ.**

### На «Камунарцы» — ўзбітыя цукеркі

ААТ «Камунарка» (г. Мінск) увяло ў эксплуатацыю новы ўчастак па выпуску ўзбітых гатункаў цукерак (кшталту суфле). Магутнасці новага абсталявання дазваляюць вырабляць да 300 кг падобнай прадукцыі ў змену. У цяперашні час тут выпускаюцца цукеркі «Птушынае малако» трох відаў — шакаладныя, сметанковыя і лімонныя. Пры вырабе гэтых цукерак выкарыстоўваецца масла з высокім утрыманнем сухога малака (84 працэнты), што забяспечвае добрую якасць прадукцыі. «Птушынае малако» расфасоўваецца ў каробкі па 220 г. **Інтэрфакс.**

### Затрыманы гандляр узрыўчаткай

Супрацоўнікамі Упраўлення КДБ па Гомельскай вобласці ў Мазыры пры спробе збыту 3 кілаграмаў тратылу затрыманы жыхар Калінкавіцкага раёна. Пра гэта 31 студзеня БелаПАН паведамілі ў прэс-службе ведамства.

Падчас следства высветлілася, што да гэтага бізнесу маюць дачыненне яшчэ двое жыхароў Светлагорска. У гаражы аднаго з іх знойдзены цэлы арсенал зброі і боепрыпасаў часоў другой сусветнай вайны. Так, знойдзена 5 мінамётных мін, 5 гранат Ф-1, 3-літровая ёмістасць з порахам, самаробны абрэз, 11 ствалоў да наразной зброі і больш за 800 патронаў.

Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа за незаконнае захоўванне зброі па арт. 295, ч. 2 Крымінальнага кодэкса.

**Ірына ШАНЦАВА, БелаПАН.**

### У Мсціславе згарэлі дзеці

31 студзеня двое дзяцей загінулі ў час пажару ў Мціславе. Загаранне ў жылым доме на вуліцы Камунарнай адбылося ўдзень. Дзеці знаходзіліся ў пакоі, а бацькі ў гэты час адправіліся ў магазін, закрыўшы кватэру на замок.

Першымі загаранне ў кватэры выявілі суседзі. Адчуўшы пах дыму і ведаючы, што ў кватэры знаходзяцца дзеці, суседзі паспрабавалі прабіцца туды. Аднак пранікнуць у палаючае памяшканне так і не ўдалося. Пасля таго, як былі выбіты вокны і дзверы, у кватэру пачаў паступаць кісларод, а высокая тэмпература ў самой кватэры садзейнічала ўзнікненню агню. Дзяцей, зразумела, у такіх умовах суседзям выратаваць не ўдалося.

**Кірыл ДАНІЛАЎ.**

### Статак украдзеных свіней

Мсціслаўская міліцыя затрымала ў дарозе цэлую аўтамашыну ўкрадзеных свіней. У кузаве грузавіка былі 23 свінні агульнай вагой 3305 кілаграмаў. На палову гэтай жывёлы была афармлена «ліпавая» накладная. Везлі свіней для такой жа неіснуюай фірмы-атрымальніка. Як паведаміў начальнік Мсціслаўскага РАУС Уладзімір Князеў, усё гэта пагалоўе было загружана на свінакомплексе «Віхра» Мсціслаўскага раёна. Адпусцілі жывёлу два начальнікі цэхаў за хабар у тысячу долараў ЗША. Гэта афера прыкрывалася як разлік за атрыманы мазут з Крычаўскай ЖКГ. Але, як высветлілася, паліва гэта таксама было ўкрадзена. Словам, цэлы клубок злачынстваў, якія цяпер расследуецца. Ну а канфіскаваныя свінні перададзены Мсціслаўскай раённай нарыхтоўчай канторы для рэалізацыі.

**Мікалай Назаровіч, БЕЛТА.**

## КУРСЫ ВАЛЮТ

**Курсы абмену наяўных валют на 1 лютага па стану на 10.00**

| Назва банка | USD Купля | USD Продаж | DM Купля | DM Продаж | RUR Купля | RUR Продаж | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Белпрамбудбанк | 1200,00 | 1220,00 | 560,00 | 580,00 | 40,00 | 43,00 | (017) 284-81-10 |
| Славнефтебанк | 1210,00 | 1225,00 | 540,00 | 580,00 | 41,00 | 44,00 | (017) 216-23-90 |

**Курсы замежных валют, устаноўленыя НБ РБ на 2.02.2001 г. (для б/н разлікаў)**

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1212,00 | 1 нямецкая марка | 584,70 |
| 1 еўра | 1143,58 | 1 польскі злоты | 296,26 |
| 1 латвійскі лат | 1960,37 | 1 расійскі рубель | 42,61 |
| 1 літоўскі літ | 302,92 | 1 украінская грыўня | 223,18 |

**Курсы замежных валют для безнаяўных разлікаў**

| | USD | DM | 1000 BRB | EUR |
|---|---|---|---|---|
| Цэнтрабанк РФ (на 2.02) | 28,44 | 13,66 | 22,79 | 26,72 |
| Курс у гандлёвых кампаніях (на 1.02.2001) | 1240 | 1290 | | |

*Агенцтва Уладзіміра Грайцова*



АФІЦЫЙНА

# Спадзяванні творцаў знайшлі водгук у прэзідэнта



Толькі пад «крылом» дзяржавы нацыянальная культура можа развівацца паўнацэнна. Так можна сфармуляваць лейтматыў выступлення прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі на рэспубліканскай нарадзе работнікаў культуры і дзеячаў мастацтва 1 лютага. У Палац рэспублікі, дзе два дні працягваўся гэты форум, з'ехаліся амаль 500 чалавек, па вызначэнню прэзідэнта — эліта нашага грамадства.

Ні ў кога няма сумнення, што гэта размова аб праблемах культуры і шляхах яе развіцця наспявала не адзін год. Ці своечасова яна адбылася? Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, з аднаго боку, дзяржаўнае маўчанне наконт працэсаў, якія адбываюцца ў галіне культуры, зацягнулася. І прэзідэнт растлумачыў гэта тым, што яго крэда — не ўмешвацца ў жыццё творцаў па дробязях, не націскаць на іх, даць ім спакойна працаваць.

З другога боку, як падкрэсліў кіраўнік дзяржавы, ён уважліва сачыў за тым, чым жыве беларуская культура. І таму назваў нараду своечасовай. «Інакш (гэта значыць раней) я не змог бы прыняць рашэнняў, якія датычацца фінансавання сферы культуры і мастацтва», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

А рашэнні гэтыя сапраўды кардынальныя. Прэзідэнт пааб'яцаў, што адпаведныя асігнаванні будуць павялічаны роўна ў два разы, хоць з 1994 года яны і ўзраслі з 0,8 працэнта ад расходнай часткі бюджэту амаль да двух працэнтаў. Акрамя таго, сур'ёзныя перамены чакаюць сістэму аплаты працы работнікаў культуры.

Па-першае, будзе выкарыстаны дыферэнцыраваны падыход да творчых арганізацый і калектываў: тыя з іх, што маюць статус «нацыянальнага», званне «заслужанага» і «народнага», атрымаюць і адпаведнае фінансаванне.

Па-другое, павялічыцца заработак майстроў мастацтваў, які цяпер у цэлым складае 70 працэнтаў ад сярэдняй заработнай платы па краіне. «Дрэнна, калі рабочы, няхай кваліфікаваны, атрымлівае ў два, а то і ў пяць разоў больш, чым знакаміты пісьменнік», — заявіў прэзідэнт. Змяніць сітуацыю дасць магчымасць рэформа адзінай тарыфнай сеткі, якая павінна падзяліцца на тры часткі: для сацыяльна-культурнай сферы, работнікаў дзяржаўнага апарату і ваенных. Праект такой рэарганізацыі цяпер ляжыць на стале кіраўніка дзяржавы, і, мяркуючы па ўсім, ён гатовы прыняць станоўчае рашэнне. «Я рызыкую, але схільны да таго, каб пайсці на гэты рызыкоўны крок», — адзначыў прэзідэнт. Зрэшты, Аляксандр Лукашэнка засяродзіў увагу ўдзельнікаў сустрэчы на тым, што ім таксама неабходна «варушыцца» і не ўпускаць грошы, што ляжаць на паверхні. Аб гэтым гаварыў у сваім выступленні і міністр культуры Леанід Гуляка, на думку якога, неабходна ствараць як мага больш камерцыйных праектаў.

Менш будзе непакоіць творцаў і «кватэрнае пытанне». Паводле слоў прэзідэнта, гэтаму пасадзейнічаюць доўгатэрміновыя льготныя крэдыты і пазыкі на будаўніцтва жылля. І кіраўнік дзяржавы паставіў задачу ўжо ў гэтым годзе пачаць будаўніцтва двух дамоў для творчай інтэлігенцыі ў Мінску, па аднаму — у абласных цэнтрах.

Так або інакш водгук у прэзідэнта знайшла пераважная большасць выказванняў дзеячаў культуры.

Таму пратакол яго даручэнняў заняў не адну старонку: ад падатковых ільгот да камплектавання бібліятэчных фондаў і закупак музычных інструментаў.

«Нацыянальная культура — найважнейшы стратэгічны рэсурс дзяржавы, — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. — Без яе не можа быць эканомікі: культура з'яўляецца асновай усяго грамадства».

У сваёй прамове кіраўнік дзяржавы закрануў практычна ўсе праблемы, узнятыя ўдзельнікамі нарады. Немалую частку яго даклада заняла і характарыстыка агульнага стану беларускай культуры на рубяжы стагоддзяў. Як лічыць Аляксандр Лукашэнка, не так даўно яна ледзь не канула ў Лету, стаўшы «арэнай палітычнай барацьбы». «Але з вашай дапамогай мы культуру захавалі і ўзбагацілі», — сказаў Аляксандр Лукашэнка, звяртаючыся да ўдзельнікаў сустрэчы. І цяпер у нашай краіне працягваюць дзейнічаць больш як 13 тысяч устаноў культуры, у сферы заняты больш як 70 тысяч чалавек. А цяпер прыйшоў час узняць яе на «новы віток», чаму павінна пасадзейнічаць нарада. Аб гэтым, як і аб сваім задавальненні вынікамі форуму, прэзідэнт заявіў у інтэрв'ю журналістам пасля яго завяршэння.

Поўны тэкст выступлення прэзідэнта на нарадзе будзе апублікаваны ў рэспубліканскай прэсе.

**Аксана ПІВАВАР,
Марыя АГАФОНАВА,
Вольга ШВАЙКО,
БЕЛТА.**

### Вышукваецца студэнт акадэміі

Ў Мінску супрацоўнікі крымінальнага вышуку хутка раскрылі забойства, якое было ўчынена ў адной з кватэр па вуліцы Убарэвіча. Тут праваахоўнікі знайшлі цела пенсіянера. Устаноўлена, што злачынства — справа рук 19-гадовага студэнта Акадэміі фізвыхавання і спорту, які здымаў у пенсіянера пакой. Студэнт пасля ўчыненага збег і зараз вышукваецца праваахоўнымі органамі.

**Ігар ГРЫШЫН.**

### Проста анекдот

*— Ты выйшла замуж за Майкла?*

*— Не! Ён па сваёй наіўнасці расказаў мне пра свайго заможнага дзядзечку, калі прапанаваў мне сваю руку і сэрца. І цяпер я стала цётачкай гэтага беднага хлопца.*

❐

*Вядомая кінаактрыса выпісвае замежны пашпарт.*

*— Вы замужам? — спытаў клерк, запаўняючы графы.*

*— Час ад часу, — сціпла адказала яна.*




IREX/ProMedia

СІТУАЦЫЯ

# Сярод выпускнікоў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў беспрацоўных няма?

Баранавіцкі тэкстыльны камбінат працуе сёння з перабоямі: цяжкае фінансавае становішча прымушае лічыць кожны рубель, тут не да расшырэння рабочых месцаў, а, наадварот, трэба было б скараціць вялікую колькасць рабочых.

А вось ВПТВ-5, якое некалі рыхтавала рабочыя кадры толькі для камбіната, — жыве. Шумнымі групамі бягуць «пятэвушніцы» ад інтэрната да вучылішча, а затым у сталовую...

І мне падумалася, што многія з выпускнікоў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў застаюцца без працы і чакаюць сваёй чаргі ў цэнтры занятасці. Але, як ні дзіўна, там праблемы з выпускнікамі ПТВ няма, бо ў цэнтр яны амаль не прыходзяць.

А ў Баранавіцкім рэгіянальным цэнтры занятасці зафіксаваны самы высокі працэнт беспрацоўных сярод выпускнікоў тэхнікума лёгкай прамысловасці і недзяржаўных навучальных устаноў. Адным словам, тыя, хто атрымаў прафесію, а дакладней — вывучыўся за свае грошы, найчасцей сярод выпускнікоў застаюцца беспрацоўнымі.

Працоўны рынак перанасычаны юрыстамі, эканамістамі ды бухгалтарамі. У мінулым годзе праз цэнтр занятасці прайшло 11 тысяч чалавек. З усіх, хто падпаў пад разрад беспрацоўных, — 75 працэнтаў удалося ўладкаваць на работу. Палова з тых, хто звярнуўся ў цэнтр, — моладзь. Але знайсці работу для некаторых груп насельніцтва даволі складана.

«Тут многае залежыць ад стажу, кваліфікацыі і ўзросту чалавека, — патлумачыла дырэктар цэнтра Наталля Пяцельнік. — Хаця мы і робім усё магчымае, але тым, каму за сорак, уладкавацца на работу цяжэй. Гэта найбольш датычыцца эканамістаў і бухгалтараў, якія не ўмеюць працаваць на камп'ютэрах».

Каб дапамагчы гэтай катэгорыі беспрацоўных, цэнтр арганізоўвае бясплатныя курсы для тых, хто пажадаў авалодаць камп'ютэрам. Прапануецца таксама беспрацоўным перавучыцца — набыць прафесію, якая патрэбна, карыстаецца попытам. І ўсё ж у жанчын, якія засталіся без работы, больш праблем, чым у мужчын. Калі 70 працэнтаў мужчын удаецца ўладкаваць, то прыкладна для 65 працэнтаў жанчын, якія зарэгістраваны ў цэнтры, работы няма.

І не ўсе беспрацоўныя хочуць ісці на работу, якую прапануе цэнтр, бо лічаць, што маюць права на больш прэстыжную.

І ўсё ж у Баранавічах ці Брэсце знайсці работу прасцей, у гэтых гарадах многа прадпрыемстваў, а вось у невялікіх райцэнтрах усе куды складаней. Напрыклад, у тых жа Ганцавічах ці Ляхавічах, дзе ўсяго некалькі невялікіх прадпрыемстваў, у беспрацоўнага асаблівага выбару няма. Тым не менш, напрыклад, у Ляхавічах у тым годзе ўдалося знайсці работу для 435 чалавек, а гэта 8 працэнтаў ад зарэгістраваных у цэнтры.

Але разам з гэтым існуе і скрытае беспрацоўе. Пэўная колькасць людзей не шукаюць работу праз ЦЗ, а спадзяюцца на сябе. Некаторыя выязджаюць на сезонныя работы за межы Беларусі ці знаходзяць нейкую разавую работу дома, камусьці ўдаецца адкрыць сваю справу ці ўладкавацца ў камерцыйныя структуры. Ды і ў цэлым беспрацоўе яшчэ не з'яўляецца для нас самай вялікай праблемай. Гэта звязана з тым, што нашы прадпрыемствы ўсё яшчэ дзяржаўныя.

А зараз вернемся да выпускнікоў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў. Чаму іх амаль няма сярод беспрацоўных?

Пачнём з ужо вядомага нам ВПТВ-5. Яшчэ тры гады таму ў вучылішча паступіла заяўка на падрыхтоўку рабочых для тэкстыльнага камбіната. Але то было даўно. За гэтыя гады сітуацыя на прадпрыемстве пагоршылася, і прадзільшчыцы, ткачыхі ды памочнікі майстроў ужо прадпрыемству непатрэбны. Вось і ўзнікла праблема, якую кіраўніцтва вучылішча спрабуе вырашыць.

Для заўтрашніх выпускнікоў шукаюць рабочыя месцы і ў Расіі, на тых жа прадпрыемствах Іванава. Выйсце не лепшае, але што рабіць. Ва ўсякім разе, падлеткі будуць пры справе. А большасць навучэнцаў — гэта будучыя закройшчыкі, швачкі, рабочыя для абутковай прамысловасці, ёсць нават група агентаў па страхаванню.

У мінулым годзе мясцовая швейная фабрыка ўзяла на работу ўвесь выпуск швачак. Бярэ выпускнікоў і абутковая фабрыка.

Але калі я пачую ад намесніка дырэктара Лідзіі Анопка, што вучылішча збіраецца выпусціць групу мадэльераў-канструктараў, то дужа здзівіўся, бо каму яны сёння патрэбны?

Мадэльераў выпускаюць інстытуты, тэхнікумы, а тут нейкае вучылішча.

«Нашы мадэльеры атрымаюць салідную падрыхтоўку, — растлумачыла намеснік дырэктара, — мадэліраванне — заключная стадыя навучання, а першы год яны вучацца на швачак, другі — на закройшчыцу, і ўжо толькі пасля гэтага, калі набудуць моцную тэхналагічную аснову, возьмуцца за канструяванне».

Я ведаў мадэльераў пасля інстытута, якія ўмелі маляваць, але кепска шылі, а гэта яўны парадокс. Можа ў такім падыходзе, які прапануе вучылішча, і ёсць рацыянальнае зерне?

Баранавіцкае прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 118 выпускае станочнікаў шырокага профілю, слесараў, і даволі многа — 200 чалавек у год. Але зноў жа беспрацоўных сярод выпускнікоў няма, і па вельмі простай прычыне. Палову, а то і больш забіраюць у армію, астатнія ж размяркоўваюцца па прадпрыемствах горада. А той, хто пасля арміі прыйдзе ў Цэнтр занятасці, ужо не будзе праходзіць як выпускнік ПТВ.

І яшчэ. Калі ў 118-м вучылішчы дзеці — жыхары горада, то ў ВПТВ-5 — у пераважнай большасці з розных рэгіёнаў Беларусі.

Пасля заканчэння вучылішча выпускнікі раз'язджаюцца па сваіх «хатах» і калі застаюцца без работы, то ўжо шукаюць працу там, на месцы.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

ПОГЛЯД

## *Чаму апазіцыя не карыстаецца падтрымкай грамадства?*

**Беларускае грамадства, як і любое іншае, па палітычнай структуры далёка не аднароднае. Пэўная частка людзей горача падтрымлівае дзеючыя ўлады, другая частка адносіць сябе да перакананых прыхільнікаў апазіцыі. А ёсць і трэцяя група, якая не падтрымлівае ні адзін, ні другі бок. Гэтыя людзі, магчыма, расчараваліся ва ўладах, але і на бок апазіцыі не спяшаюцца.**

Чаму палітычная апазіцыя не карыстаецца сур'ёзнай і масавай падтрымкай грамадства? Такім пытаннем задаліся сацыёлагі з Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў (НІСЭПД) і правялі апытанне на гэты конт. Для таго, каб знайсці адказы, навукоўцы звярнуліся да грамадскіх лідэраў і экспертаў, якіх звычайна называюць элітай. Было апытана 70 чалавек, прычым сярод іх былі ў роўнай колькасці прадстаўнікі як дзяржаўных, так і недзяржаўных структур. І адказы эліты на пытанне, якое прагучала вышэй, былі ў многім прадказальнымі.

**Сённяшняя апазіцыя не карыстаецца падтрымкай у беларускім грамадстве таму, што лідэры апазіцыі (можна было даць не больш за 3 адказы) (у працэнтах):**

| | |
|---|---|
| Не маюць магчымасці данесці свае погляды і праграмы да народа | 63,2 |
| Кіруюцца толькі ўласнымі інтарэсамі і партыйнымі праграмамі, а не інтарэсамі народа | 36,8 |
| Толькі крытыкуюць, не прапануюць канструктыўных рашэнняў | 26,5 |
| З'яўляюцца нацыяналістамі, выступаюць супраць сяброўства з Расіяй | 20,6 |
| Атрымліваюць матэрыяльную падтрымку з Захаду і праводзяць яго інтарэсы | 14,7 |
| Хочуць пабудаваць капіталізм, падзяліўшы грамадства на бедных і багатых | 2,9 |
| З'яўляюцца радыкаламі, экстрэмістамі, выступаюць за змяненне сённяшняй палітыкі шляхам насілля, што можа прывесці да грамадзянскай вайны | 1,5 |
| Іншыя прычыны | 11,8 |

дання поглядаў ці аднабаковай інфармацыі пра апазіцыю ў грамадстве нярэдка ўзнікаюць памылковыя ўяўленні пра яе.

Але не трэба рабіць цiск толькі на інфармацыйную блакаду, заўважаюць супрацоўнікі НІСЭПД, якія праводзілі даследаванне. Яны нагадваюць, што да лета 1994 года ў апазіцыі быў больш ці менш свабодны доступ да СМІ, але яе рэйтынг і тады нязначна адрозніваўся ад сучаснага...

Амаль трэць прадстаўнікоў недзяржаўных арганізацый і больш за 40 працэнтаў прадстаўнікоў дзяржаўных структур лічаць, што апазіцыйныя палітыкі кіруюцца толькі ўласнымі інтарэсамі, а не патрэбамі грамадства. Неканструктыўны характар паводзінаў апазіцыі быў трэцім па папулярнасці адказам.

Трэба заўважыць, што адказы як прадстаўнікоў дзяржаўнага, так і недзяржаўнага сектараў аказаліся вельмі падобнымі. Адзінае прынцыповае адрозненне заключаецца ў тым, што сярод экспертаў дзяржаўных арганізацый пятая прычына была больш распаўсюджаная, чым сярод прадстаўнікоў недзяржаўных структур.

Але асноўнай прычынай і, урэшце, галоўнай адсутнасць у апазіцыі магчымасці данесці свае погляды і праграмы да народа. Сапраўды, такая сітуацыя застаецца даволі актуальнай для апазіцыі. Нездарма яе лідэры заўсёды імкнуліся на перамовах з прадстаўнікамі ўлады дабіцца допуску да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, асабліва электронных. Прынамсі менавіта з-за нявесдання

Улічваючы атрыманыя адказы, супрацоўнікі НІСЭПД прыйшлі да высновы, што на сённяшнім этапе апазіцыі неабходна імкнуцца змяніць уражанне пра сябе ў вачах грамадства. І для гэтага трэба не толькі дабівацца доступу да СМІ, але і мяняць характар уласных паводзінаў. У прыватнасці, сацыёлагі раяць апазіцыі ўзняцца над міжасабаснымі дробнымі амбіцыямі і аб'ядноўваць свае намаганні напярэдадні выбараў. Напэўна, апазіцыі патрэбны і новыя лідэры, якія б не былі скампраметаванымі і моцна заангажыраванымі.

Пры гэтым апазіцыі неабходна пазбавіцца шэрагу іншых заганаў, якія адштурхоўваюць грамадзян ад яе, сцвярджаюць супрацоўнікі НІСЭПД.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### *Прадпрымальніцтва намечана падтрымліваць і ў рамках Саюза*

Аб сумесных узгодненых дзеяннях у галіне падтрымкі прадпрымальніцтва дамовіліся Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый Беларусі і Міністэрства па антыманапольнай палітыцы і падтрымцы прадпрымальніцтва Расіі. У прыватнасці, адведзены план супрацоўніцтва намечаны падчас візіту ў Мінск кіраўніка расійскага ведамства Ільі Южанава і яго сустрэч з беларускім калегам Анатолем Скорбежам, пры гэтым разгледжана праграма падтрымкі малога і сярэдняга бізнесу ў Саюзе Беларусі і Расіі на 2002—2005 гады.

Падчас сустрэч абмеркаваны таксама асноўныя напрамкі дзейнасці двух міністэрстваў у галіне антыманапольнага рэгулявання і развіцця канкурэнцыі.

**Іван АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Другі тэлевізар паехаў у вёску Малая Сваротава




Жанчына з сынам прыехала за выйгрышам. Словы ўдзячнасці, неабходныя фармальнасці — і яны накіроўваюцца да выхаду. Мы просім на хвіліначку затрымацца. Шчоўкае фотаапарат. І для гісторыі застаецца воблік нашага падпісчыка пачатку стагоддзя.

Муж Тацціны Мікалаеўны Юрчык Уладзімір Уладзіміравіч, хаця і быў ініцыятарам удзелу ў латарэі, але застаўся «на гаспадарцы» (ён яшчэ працуе). Таму за тэлевізарам прыехала яна, пенсіянерка, разам з сынам Дзмітрыем. Высвятлілася, што прыхільнасць Тацціны Мікалаеўны да роднага слова, да «Звязды» — не выпадковая. «Прыехала я першы раз у госці да свайго дзядзькі — вядомага паэта Максіма Лужаніна. Ды думаю: на якой жа мове размаўляць? Гарадскія ж... Ну і пачала па-руску. А ён слініце: паспраўй, маўляў, на роднай — не цяжэй будзе. Ох і сорамна ж было! Я ж у школе збіралася выкладаць беларускую мову», — распавядала яна нам.

Абранай прафесіі не здраджвала, так усё жыццё родную мову ў школе і выкладала.

«Мяркую, настане час — і павага да нашага слова вернецца. Але чакаць не трэба», — зазначыла яна на развітанне. Мы пажадалі сям'і Юрчыкаў здароўя, шчасця, добрых беларускамоўных перадач на кожным канале.

**Віктар ХУРСІК.**
**Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.**

«ГАРАЧЫ» ТЭЛЕФОН «ЗВЯЗДЫ» 268-27-41

## Несвоечасовая прапіска абыходзіцца дорага

*Сям'я Наталлі П. з горада Верхнядзвінска Віцебскай вобласці толькі што адзначыла наваселле. Але не паспелі людзі парадавацца, як давялося засмучацца.*

«Мы ўдзельнічалі ў жыллёва-будаўнічым кааператыве. Дом быў здадзены ў лістападзе 2000 года, але мы засяліліся толькі ў студзені сёлетняга года. На тое былі важкія прычыны: спачатку хварэла мая маці, потым наша двухгадовая дачушка, а пасля бабулю хаваць давялося. Вядома, што пра прапіску дбаць у нас не было часу. Камунальныя плацяжы ўносілі своечасова. Але цяпер нам выстаўлена патрабаванне заплаціць за 3 месяцы па нарматыўнаму кошту аж 120 тысяч рублёў. На сходзе мы не прысутнічалі, калі паведамлялі пра неабходнасць тэрміновай прапіскі. І калі камунальныя паслугі аплачвалі, таксама ніхто не сказаў пра гэты момант. Такіх навасёлаў дваццаць сем'яў», — расказвала наша чытачка.

Карэспандэнт «Звязды» звярнулася па дапамогу ў Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі. Спецыялісты ўпраўлення эканомікі інфармавалі, што ў краіне дзейнічае пастанова Савета Міністраў № 606 ад 28 красавіка 2000 г. Дакумент абавязвае спаганяць плату за тэхнічнае абслугоўванне па нарматыўнаму сабекошту, што ўстаноўлены выканкамамі, з грамадзян, якія маюць адно ці два памяшканні ва ўласнасці, але там не пражываюць члены сям'і ўласніка ці ён сам. Дзеянні адміністрацыі цалкам правамерныя. У дадзеным выпадку навасёлы павінны былі прапісацца ў тэрміновым парадку. Дзеючы дакумент не ўстанаўлівае часавыя межы, але мяжа на ўвазе, што факт прапіскі ажыццяўляецца на працягу месяца. Як паведамілі спецыялісты міністэрства, у хуткім часе з'явіцца дакумент, які ўнясе карэктывы ў пастанову № 606. Тэрмін прапіскі на працягу месяца будзе зацверджаны дакументальна.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## *Віншаванні*

*Дарагая, любая* ***Аксана Аляксандраўна КЕМЕН****, віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем шчасця, любові, здароўя на доўгія гады, каб заўсёды была вясёлая, любая, шчаслівая.*

**Бацькі, родныя,** г. Маладзечна.

*Віншуем* ***Сяргея Аляксандравіча МІНЧУКЕВІЧА*** *з днём нараджэння. Жадаем шчасця і добра, чтоб жизнь счастливою была.*

**Жонка, любімая цешча і цесць.**

*Віншую дарагую сястру* ***Святлану Уладзіміраўну ПЛЮТА*** *з 20-годдзем.*
*Пусть будет в жизни все что нужно*
*Любовь, здоровье, счастье, дружба.*

**Дзмітрый,** г. Докшыцы.

*Віншуем з юбілеем* ***Тацціну Уладзіміраўну НОРЭНБЕРГ****. Пусть жизнь твоя будет прекрасна, мы счастья желаем тебе.*

**Мама, бабуля Ніна,** в. Тарасавічы.

*Шчыра віншуем дарагую цётачку* ***Валянціну Сямёнаўну ЖДАНОВІЧ*** *з в. Слабада Уздзенскага раёна з 70-годдзем. Няхай моцнае здароўе, шчасце і жыццёвая мудрасць крочаць побач з табой да 100-годдзя юбілею.*

**З павагай пляменнік Аляксей Дубовік з сям'ёй,** г. Мінск.

*З днём нараджэння, любы ўнук* ***Яўгеній Віктаравіч СМАЛЬЯНІНАЎ****. Жадаю шчасця, здароўя, поспехаў у працы, радасці ў жыцці.*

**Іван Уладзіміравіч,** г. Стоўбцы.

Згублены **ваенны білет** на імя Ладзягіна Яўгена Іванавіча ***лічыць несапраўдным.***

# Глеб Жаглоў і Валодзя Шарапаў: хто бліжэй сучаснаму «менту»?..

## (З пункту гледжання аўтара «дакладных крыніц»)

*Мабыць, не будзе перабольшаннем сказаць, што Дзмітрый Партон — чалавек, якога ведаюць у твар многія ў нашай краіне. Ужо не адзін год па суботах выходзіць у тэлевізійны эфір яго аўтарская праграма «З дакладных крыніц», а да гэтага былі праграмы «Арсенал», «Арсенал-эксклюзіў». У «жывым» эфіры ён вёў радыёпраграмы «Вайсковы веснік», «Вайсковая хваля»...*

*Але далёка не ўсе чытачы ведаюць, што падпалкоўнік міліцыі Партон — прэс-сакратар Міністэрства ўнутраных спраў.*

*... Рыхтуючыся да гутаркі, уважліва і нават прыдзірліва глядзела «З дакладных крыніц». Агульнае ўражанне: гранічна «выглянцаваны» тэлевядучы... Дзмітрый Якаўлевіч аказаўся чалавекам сціпла-абаяльным, па-ваеннаму падцягнутым (знешне і ўнутрана). Прынамсі, гэтая стаўшая звычкаю строгасць у манеры трымацца ніколькі не перашкаджае кантактнасці, адкрытасці, тонкаму пачуццю гумару і нават... эстэтнасці.*

*Мінулы год для Партона быў асаблівым. Атрымаў, нарэшце, кватэру (пасля 8-гадовага блукання па інтэрнатах). Старэйшы сын Андрэй пайшоў у першы клас. І ці не самая галоўная падзея — 21 снежня нарадзіўся другі сын. Назвалі Арцёмам, але бацька пакуль што яго не зарэгістраваў: няма часу...*



**— Дзмітрый Якаўлевіч, у якім узросце вы сталі падпалкоўнікам?**

— У 33 гады.

**— Не ранавата?**

— Калі ўсё па службе ідзе добра, то гэта нармальная ўзроставая мяжа. Іншая справа, што ў некаторых афіцэраў бываюць затрымкі: няма пасады — не даюць звання і г.д. Датэрміновых званняў я не атрымліваў. І ўвогуле, для мяне званне — гэта, мабыць, толькі рэха ўспамінаў аб ваенным вучылішчы: курсанты чатыры гады мараць стаць лейтэнантамі...

**— Дзе вы вучыліся?**

— Скончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча. Дарэчы, шмат яго выпускнікоў працуе ў Беларусі, у асноўным у «грамадзянскай» прэсе (і «правай», і «левай». Нас усіх яднае львоўскае брацтва, таму, выконваючы свае службовыя абавязкі і пэўнага роду заказы, мы «на асобы» не пераходзім.

**— Украінскую мову вывучылі?**

— Не, з гэтым дрэнна. Толькі анекдоты па-ўкраінску расказваем *(смяецца)*. У вучылішчы быў жартоўны канфлікт паміж «хахламі» і «прышлымі»: вучылішча было адзінае не толькі ў СССР, але і ў краінах Варшаўскага Дагавора, штогод выпускалі ўсяго 50 ваенных журналістаў (разам з намі вучыліся прадстаўнікі больш як 17 краін свету).

**— А родам вы адкуль?**

— Карэнны брастаўчанін.

**— Бацькі, пэўна, маюць дачыненне да ваеннай справы?**

— Ніякага! Бацька нават у арміі не служыў, нарадзіўся перад самай вайной, перахварэў на страшную форму тыфу, як вынік — дрэнны зрок. Бацькі мае па прафесіі педагогі, але маці ўсё жыццё працавала на Брэсцкім электрамеханічным заводзе тэхнолагам цэха.

**— Чаму вы раптам у ваенныя вырашылі падацца?**

— Мне падабалася журналістыка, падабалася гутарыць з людзьмі, пісаць. А менавіта да ваеннай журналістыкі быў яшчэ штуршок: я пабываў на выпуску ў сваяка, які скончыў знакамітае Маскоўскае каманднае вучылішча. Выпуск праводзіўся на Краснай плошчы, так усё прыгожа, залатыя пагоны... Маёй марай стала ваенная журналістыка. Хаця наш камандзір роты заўсёды смяяўся: маўляў, не можа быць ваенных журналістаў — ты павінен быць альбо ваенным, альбо журналістам!

**— У гэтым жарце, мабыць, ёсць доля жарту?.. А кім, дарэчы, вы сябе больш адчуваеце: ваенным ці журналістам?**

— Зараз я ўжо не толькі журналіст, але і арганізатар, менеджэр у сферы інфармацыйных тэхналогій.

**— Але не ваенны?**

— Не. Ну, можа, дзесьці ў глыбіні душы... Ваенным сябе не адчуваю яшчэ і таму, што ўся мая работа праходзіць у цывільнай вопратцы.

**— А форма ў вас ёсць?**

— Канешне! Але апранаю яе вельмі рэдка. Калі працаваў на радыё і 23 лютага прыйшоў у форме, дык усе збегліся паглядзець: аказваецца, ён ваенны! *(Смяецца.)* Безумоўна, ваенны вопыт дапамагае мне ва ўзаемаадносінах з кіраўнікамі. Я разумею псіхалогію людзей у пагонах: 17 гадоў сам у пагонах... Пасля заканчэння вучылішча быў накіраваны на службу ў Групу савецкіх войскаў у Германіі — у дывізіённую газету (па-цывільнаму — шматтыражка). За 5 гадоў вырас з карэспандэнта да рэдактара гэтай газеты.

**— А потым, калі рухнула Берлінская сцяна...**

— Яна, дарэчы, на маіх вачах развальвалася.

**— Кавалачак узялі на памяць?**

— Так, у маім кабінеце ляжыць гэты сувенір... Пасля вядомых падзей нас вывелі ў Слонім і расфарміравалі. Пасялілі ў казарме з садатамі — памятаю, хавалі рэчы, каб салдаты не ўкралі... Выклікаў для размовы палкоўнік са штаба арміі. Я сказаў, што быў рэдактарам газеты. Ён у адказ: «Малайчына! А пакуль прызначаем цябе камандзірам танка».

**— Будову танка вы хоць прыблізна ведалі?**

— Прыблізна: пяць гадоў я быў у танкавай дывізіі, пісаў пра танкі... Пачаў сам шукаць сабе месца працы. Падказалі, што фарміруецца прэс-цэнтр Міністэрства абароны — неаднаразова прыязджаў у Мінск, прапаноўваў свае паслугі: як-ніяк, добра валодаў беларускай мовай... Праз пэўны час пачаў працаваць у прэс-цэнтры Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, адказваў за сектар радыёвяшчання, вёў перадачу на ВаенТБ. Потым працаваў у прэс-службе Савета бяспекі, цяпер у МУС...

**— Вы «фартунны» чалавек.**

— Бацька мне звычайна гаворыць: «Мая зорка — над табой»... Так, мне быццам бы шанцуе. Але я ніколі не азіраюся назад, нічога не раблю дзеля голага кар'ернага росту. Можа, таму лёс мяне і «падштурхоўвае»... Хаця мае знаёмыя часам жартуюць: хто высока ўзлятае, таму будзе горка падаць...

**— Дзмітрый Якаўлевіч, вы прывыкалі да метадаў работы некалькіх кіраўнікоў. Ці можна сказаць, што вы ўмееце лавіраваць паміж Сцылай і Харыбдай?**

— Я ніколі не ставіў мэту лавіраваць. І ўвогуле ёсць закон амерыканскага менеджменту: калі менеджэр думае, як бы ўтрымацца на сваім рабочым месцы, ён дрэнны работнік, безыніцыятыўны, бо асноўная яго задача — любымі спосабамі ўтрымацца. Я ніколі гэтым не займаўся, не азіраўся назад, не «цокаў абцасамі», працаваў — і ўсё. І сваім падначаленым заўсёды кажу: трэба дзейнічаць па армейскаму прынцыпу: рабі, як я, — рабі лепш за мяне. Я сам раблю перадачу, сам пішу паведамленні...

**— Якая, на ваш погляд, была самая ўдалая перадача?**

— «Арсенал-эксклюзіў». Праз гэту праграму прайшлі калісьці ўсе кіраўнікі сілавых ведамстваў — такія цікавыя размовы атрымліваліся! Набліжалася 23 лютага — мы патэлефанавалі ў прэс-службу прэзідэнта: можа быць, Аляксандр Рыгоравіч як Галоўнакамандуючы Узброеных Сіл Беларусі дасць згоду выступіць у нашай праграме? Закідваючы гэту ідэю, мы не разлічвалі, шчыра кажучы, на станоўчы адказ. А праз дзве гадзіны званяць: прэзідэнт згодны... Кожная перадача — паколькі ўдзельнічалі ў ёй сілавікі — заканчвалася тым, што госці студыі правяралі сябе на сіламеры. Кожны выціскаў сваю лічбу, у нас ужо і пэўная статыстыка склалася... Прэзідэнт, дарэчы, выціснуў больш за ўсіх — 91 кг (звычайныя лічбы былі — 60—62 кг). Гэта рэальна. Ніхто яму не «падціскаў».

**— 91 кг — і без праблем?**

— Клянуся вам!.. Ён здаровы мужык, у яго та-кая ручышча!.. Я, шчыра кажучы, не вытрымаў і сказаў: «Адчуваецца поціск прэзідэнта!».

**— Дзмітрый Якаўлевіч, што самае непрыемнае ў рабоце прэс-сакратара МУС?**

— Самае непрыемнае — што могуць нечакана пазваніць па тэлефоне, і ты размаўляеш, не ведаючы, што цябе запісваюць, каб потым выдаць у эфір... Некаторыя журналісты робяць упор на выпадкова сказанае слова, на нейкія дробныя палітычныя скандальчыкі. Днямі, напрыклад, у Міністэрстве была прэс-канферэнцыя, на якую спрабаваў прарвацца Шчукін. Яго не пускалі, і ён разбіў шкло. Да мяне — тысячы званкоў!..

**— Можа, усё ж трэба было яго прапусціць?**

— На прэс-канферэнцыі «Народную волю» прадстаўляў іншы журналіст... Ды і навошта нам гэты стары палітычны хуліган, які хаваецца пад маскай журналіста і ўчыняе скандалы? Ён быператварыў прэс-канферэнцыю ў скандал.

**— Гэта яму ўсё роўна ўдалося.**

— У трэці раз! Адзін раз ён пісаў балончыкам на сценах МУС, другі — ляжаў ля ўваходу ў знак пратэсту... Яму ўсё сыходзіць з рук. І самае галоўнае — прэса з задавальненнем расказвае пра яго «подзвігі». А калі раскрываецца сур'ёзнае злачынства, гэта нярэдка не цікавіць пэўныя СМІ... Увогуле, я іх не абвінавачваю, у мяне нармальныя адносіны з усімі. Маё крэда: лепш дрэнны мір, чым добрая вайна.

**— Кажуць, аднойчы вы дапамагалі вызваляць арыштаваных журналістаў?**

— Я бываю на ўсіх буйных акцыях, звычайна — сярод журналістаў: каб дзесьці ім дапамагчы інфармацыяй, каб іх — не дай Бог! — хто не пакрыўдзіў. 25 сакавіка мінулага года я прыехаў на плошчу Я. Коласа, усё было спакойна, потым ад'ехаў на плошчу Бангалор, дзе павінен быў праходзіць мітынг, — і раптам даведваюся, што арыштаваны журналісты. Тэрмінова накіраваўся на месца іх зняволення (на вул. Маякоўскага). «Вы затрымалі журналістаў?» — «30 чалавек!» Які жах!.. Звязаўшыся з тагачасным міністрам Сіваковым (які таксама быў здзіўлены гэтым арыштам) і атрымаўшы ад яго паўнамоцтвы, загадаў неадкладна адпусціць журналістаў.

**— А чаму такая сітуацыя наогул здарылася?**

— Мне складана аналізаваць. Магчыма, выканаўцы няправільна зразумелі паступаючыя каманды ці, можа, хтосьці вырашыў проста «выслужыцца»... Гісторыя непрыемная. Міністр афіцыйна папрасіў прабачэння. Каля 10 супрацоўнікаў былі сур'ёзна пакараны, МУС аднавіла ўсю пашкоджаную тэхніку.

Але самае цікавае — журналісцкая брацыя, якая бачыла, як усё было, хто іх вызваляў... Кожны ў меру сваёй заказанасці ці «сапсаванасці» стаў перадаваць «інфармацыю». Адны перадалі: толькі пасля ўмяшання У. Пуціна былі вызвалены расійскія журналісты (тады ішла перадвыбарная прэзідэнцкая кампанія ў Расіі); другія: толькі пасля ўмяшання пасла Расіі; трэція: толькі пасля ўмяшання Хартыі-97... А рэальна было так: я прыехаў, усіх вывеў і яшчэ прапанаваў падвезці!

**— Для вас існуе паняцце «святая хлусня»?**

— Інфармацыйныя тэхналогіі — гэта палітыка, а для палітыкі, на жаль, гэтае паняцце па-ранейшаму актуальнае... Але не прыпомню сітуацыі, калі б мне прыйшлося хлусіць. Аднак сапраўды бываюць моманты, калі я не магу адкрыць абсалютна ўсю інфармацыю, якой валодаю. Каб не пашкодзіць ходу следства, напрыклад.

**— У МУС ёсць «тэлефон даверу». Сцвярджаюць, што такім чынам міліцыя заахвочвае «стукачество».**

— Ідэя «тэлефона даверу» з'явілася з мэтаю даведацца меркаванні людзей аб рабоце міліцыі на месцах. «Тэлефон даверу» ўвогуле апраўдвае сябе. Мы пераправяраем усе паступаючыя сігналы. Дзякуючы «тэлефону даверу» не толькі выводзяцца на чыстую ваду несумленныя супрацоўнікі міліцыі, хабарнікі, але і раскрываюцца злачынствы. Напрыклад, за 1999 год было раскрыта каля 30 злачынстваў. «Тэлефон даверу» застаецца ранейшым: 229-72-22. Палітыка МУС накіравана на максімальную адкрытасць. Працуе прыёмная грамадзян, куды можна звяртацца са сваімі праблемамі... Магчыма, прагучыць і грубавата, але які-небудзь «засыцелы» кіраўнік міліцыі ў рэгіёне лішні раз задумаецца: чалавек можа прыйсці або напісаць у прыёмную грамадзян — і гэта стрымае яго ад хамскіх учынкаў, якіх у рэгіёнах, на жаль, усё яшчэ хапае.

**— Вам непрыемна чуць азначэнне «мент»?**

— Ды не, чаму?.. Абразлівым лічыцца слова «лягавы», хаця і яно мае нармальныя гістарычныя карані: калісьці на значках сыскавікоў была выява сабакі, адсюль і пайшло... Мне складана далучыць сябе да «ментоў». Лічу, што «менты» — гэта «оперы», якія скончылі Акадэмію міліцыі, якія прайшлі шлях ад звычайнага «вышукоўца» да следчага па асабліва важных справах... Я ў большай ступені чалавек, які забяспечвае інфармацыйную падтрымку іх дзейнасці.

**— Ці не занадта шмат крыміналу ў прэсе?**

— Яго ў жыцці шмат... Калі ідзе «чысты» крымінал, г. зн. журналісты паведамляюць па зводках: забіта столькі, зарэзана, згвалтавана, абрабавана столькі — гэта сапраўды псіхалагічна абцяжарвае чытачоў і нават палохае. Па гэтым шляху пайшлі расійскія тэлеканалы: голы крымінал! А мы зараз імкнёмся паказваць работу міліцыі па выяўленню крыміналу, па раскрыццю злачынстваў і, самае галоўнае, па прафілактыцы злачыннасці. Гэта справа важная і неабходная. Помніце, як Глеб Жаглоў гаварыў: якасць работы праваахоўнай сістэмы краіны ацэньваецца не па колькасці злачынстваў, а па ўменню міліцыі іх раскрываць.

**— Ну, Глеб Жаглоў быў далёкі ад дасканаласці ў плане раскрыцця злачынстваў!**

— Так.

**— Цікава, а хто вам бліжэй па духу: Глеб Жаглоў ці Валодзя Шарапаў?**

— Цяжка сказаць... Напэўна, усё-такі Шарапаў.

**— А ў нашых органах больш «жагловых»?**

— Можа быць, і так. Вал крыміналу накладвае на людзей цяжкі адбітак. Калі кожны дзень сутыкаешся з рэчамі, якія для звычайнага чалавека проста жудасныя... З аднаго боку, гэта робіць супрацоўніка міліцыі ў чымсьці больш чэрствым, а з другога боку, гэта дае любому «оперу» магчымасць сапраўды спакойна, без эмоцый працаваць па раскрыццю злачынстваў.

**— За перавышэнне службовых паўнамоцтваў міліцыянеры прыцягваюцца да адказнасці?**

— Безумоўна. За 2000 год да адказнасці прыцягнута 5433 супрацоўнікі і вайскоўцы сістэмы МУС, з іх да крымінальнай адказнасці — больш як 120 чалавек. Для невялікай Беларусі лічбы немалыя.

**— Які, на ваш погляд, самы страшны грэх?**

— І па Біблії, і па жыцці — забойства. Таму я не падтрымліваю прапановы аб адмене смяротнага пакарання. Я нават супраць (у душы — супраць!) увядзення пажыццёвага зняволення. Я рабіў перадачу на тэму смяротнага пакарання. Адзін прафесар-правазнавец прапанаваў выказаць у перадачы свае аргументы наконт таго, што мы нецывілізаваная краіна, што жывём па дзікунскаму прынцыпу «кроў за кроў, смерць за смерць» і г.д. Прыехалі, каб запісаць яго меркаванні, — і раптам ён адмаўляецца гаварыць «для эфіру». Потым высветлілася, што ў яго сваяка забілі сына. І ён за адзін дзень змяніў пункт гледжання: маўляў, гэтых нелюдзяў забіваць трэба, на кол саджаць! Калі справа датычыць цябе асабіста... Не разумею, чаму серыйнаму забойцу павінны патураць, замяняючы смяротную кару пажыццёвым зняволеннем? Ён бярэ Біблію... Я быў у камеры смяротнікаў — яны ў адзін дзень усе становяцца веруючымі, яны цалкам раскайваюцца!.. Я не прызнаю гэтых пакаянняў — таму што ці могуць дараваць людзі, якіх яны забівалі? Альбо бацькі забітых дзяцей?..

**— Якім чынам у нас ажыццяўляецца «вышэйшая мера пакарання» — прыводзіцца прыгавор у выкананне?**

— Гэта з'яўляецца дзяржаўнай тайнай.

**— Адзін з аргументаў за адмену смяротнага пакарання — судовыя памылкі. Усім помніцца «віцебская» справа, калі суд прыгаварыў невінаватага чалавека...**

— Смяротнае пакаранне зараз прымяняецца толькі да найбольш жорсткіх забойцаў, віна якіх абсалютна даказаная. Звычайна імі ўчыняецца не адно, а некалькі забойстваў з абцяжваючымі віну абставінамі.

**— Якія злачынствы былі самымі распаўсюджанымі ў канцы XX стагоддзя?**

— Так званыя «маёмасныя» злачынствы: крадзяжы, разбойныя напады. Калі раней зладзеі стараліся ўлезці ў кватэру, ведаючы, што няма нікога з гаспадароў, то зараз не цураюцца абсалютна нічога — крымінальны напор, жорсткасць. Адзначаецца і рост эканамічных злачынстваў. Амаль няма заказных забойстваў, але 99 працэнтаў — гэта забойствы на бытавой глебе на базе п'янства. Народ п'е страшэнна, асабліва ў вёсках. Нап'юцца — і пачынаецца: ты мне каня не даў... Жудасныя рэчы: унук забіў бабку, маці забіла дзіця, муж — жонку... Раніцай пахмелле, раскаянне. Дарэчы, такія людзі ніколі не падпадаюць пад «вышэйшую меру».

**— Вам ніколі не прапаноўвалі грошы за канфідэнцыяльную інфармацыю?**

— Ні разу. Мабыць, баяцца!

**— А ўвогуле, якое месца ў вашым жыцці займаюць грошы?**

— Не самае галоўнае, але без іх складана. Таму што двое дзяцей, жонка не працуе.

**— Вам хапае?**

— Паняцце «хапае» — адноснае. На жыццё — хапае.

**— Вы робіце ўражанне надзвычай правільнага чалавека. А недахопы якія ў вас ёсць?**

— На думку маёй жонкі, я ўвесь сатканы з недахопаў. Жартую!.. Як можна пра свае недахопы гаварыць?!

**— Ну, змагаецеся з чымсьці ў сабе?**

— Стаў паўнець — і пачаў рэгулярна хадзіць у спартзалу. Форму стараюся падтрымліваць, гэта ўплывае на агульны стан.

**— Цікава, моцныя напіткі ўжываеце?**

— Ужываю. Я нармальны мужчына. У мяне ёсць сябры, мы сем'ямі збіраемся, з задавальненнем выпіваем за сяброўскім сталом — не дзеля таго каб «набрацца», а дзеля весялосці, сардэчай размовы.

**— У вашым асяроддзі, відаць, не абыходзіцца і без «моцных» слоўцаў?**

— Бывае часам: армія, канешне, наклала адбітак...

**— Хто ваша жонка?**

— Іна таксама брастаўчанка, па прафесіі настаўніца матэматыкі. Яна вельмі разумны чалавек, цудоўная гаспадыня і маці. Мне з ёй цікава не толькі як з жанчынай, але і як з суразмоўцам, сябрам. Гэта вельмі важна. А ўвогуле ў нас нармальная сям'я, часам сварымся, здараюцца і цяжкія перыяды.

**— У вас ёсць абавязкі па дому?**

— Стараюся дапамагаць ва ўсім, асабліва зараз, калі з'явілася немаўля... Я ўмею ўсё рабіць: пяць гадоў жыў халасцяком, нават баршчы сабе варыў. Праўда, зараз толькі прыбіраю кватэру.

**— Вашы захапленні?**

— Я з адзнакай скончыў мастацкую школу, вельмі люблю жывапіс і добрае кіно.

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**

НА СВАЕ ВОЧЫ

# Па аўтабану

**Ах, якая шыкоўная была мінулая восень! Вясёлым журналісцкім аўтобусам з благаславення Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра мы выехалі на лепшую беларускую дарогу М1 і ўзялі накірунак на горад Бон, дзе нас чакаў рамантычны замак Анаберг, у якім будзем жыць аж тры тыдні. Што тыя 1700 км у адзін бок, калі ў камандзе ўсе з паўслова разумеюць адзін аднаго (выдаткі прафесіі); калі пад коламі блакітнага «Івека» не звыклыя нашаму брату падчас камандзіровак дарогі на Валожын ці Пухавічы, а знакамітыя нямецкія аўтабаны (без усякіх эксцэсаў усю дарогу пілі са шклянак каву і інш. — рука не здрыганулася), а за акном — спрэс засыпаныя залатоўкамі восені краявіды...**



### «Магчымасць ездзіць на аўто — палітычная справа»

Гэтую фразу мы пачулі ў мэрыі горада Бона падчас сустрэчы з яе кіраўнікамі. Германія на той час была ўзрушана: не так даўно кошт літра бензіну ўзняўся на 20 пфенігаў! Гэта пасля таго, як немцы прывыклі да стабільнай і прымальнай цаны на стратэгічны тавар першай неабходнасці. «Немагчыма жыць! Гэта вераломства», — пачынаў пераканаўча размахваць рукамі кожны, калі мы закраналі балючую тэму. Самі ж мы часцей ветліва маўчалі, бо не надта разумелі адчай мясцовых аўтаўладальнікаў: падумаеш, цэны аднойчы ўзнялі. У нас бензін кожны тыдзень даражэе, і ніхто рукі не заломвае. Нават своеасаблівае спаборніцтва існуе: хто паспеў па старой цане заправіцца, каб заўтра расказваць пра сваю вынаходлівасць і спрыт.

У Германіі ў любой кампаніі — мужчынскай ці жаночай — вам пераканаўча раскажуць, які працэнт у кошце бензіну складае тая цана, па якой яго закупляюць у АПЕК, а што «накручваюць» улады, устанаўліваючы розныя падаткі і зборы. Доўгі час апазіцыя вылучала сваім тэзісам уключэнне экалагічнага збору ў кошт бензіну, што і было зроблена. Але ўзнікла падазрэнне, што ўлады гэтыя грошы пускаюць на патанненне пенсійнага страхавання — і зноў барацьба, цяпер ужо за адмену экалагічнага збору. Так што бензінавыя страсці ў краіне, якая амаль што пагалоўна сядзіць за рулём аўтамабіля, — моцны палітычны раздражняльнік.

Дарэчы, сітуацыя з падаражаннем аўтапаліва ў Германіі напрамую адбілася і на той частцы нашага насельніцтва, каго не палохаюць айчынныя бензінавыя пакуты. Немцы пачалі актыўна перасаджвацца на больш эканамічныя аўтамабілі, а таксама на тыя, што працуюць на дызпаліве. У выніку на аўтарынках істотна знізіліся цэны на галоўны аб'ект інтарэсу нашага аўтааматара — патрыманыя аўто. Аб'явы аб продажы аўтамабіля можна сустрэць дзе заўгодна.

Вось школа паліцэйскіх у Штукенброку. Чытаем на дошцы аб'яў: «Прадаецца Фольксваген—Корса, 1992 г., 3800 ДМ», прапануюцца таксама Опелі, БМВ. Многія навучэнцы школы маюць свае аўтамабілі. Чаму не, калі стыпендыя — паўтары тысячы марак, з іх паўтары сотні — за харчаванне і інтэрнат, а астатняе можна адкласці. Заняткі тут да 16.30, потым можна садзіцца за руль і ехаць да бацькоў ці да дзяўчыны, што і робіцца.

Але хадзіць па ўстановах і шукаць абвесткі — зусім непатрэбная справа. Паўсюдна вы сустрэнеце аўтахаузы, дзе выстаўлены на продаж аўтамабілі любога «ўзросту» і любога кошту. Яшчэ лепш купіць за 3 маркі тоўстую рэкламную газету і паглыбіцца ў яе вывучэнне. А калі ёсць магчымасць — проста «залезці» ў Інтэрнэт і, пастаянна звужаючы дыяпазон пошуку (марка, год выпуску, кошт, нават колер), выбраць сваю «ластаўку». Займацца гэтым можна і дома, у Мінску. Галоўнае, каб ваш слаўны тарантасік не купілі за той час, пакуль вы будзеце дабірацца да яго праз тры краіны. Спрактыкаваныя людзі абяцаюць гаспадару сотню-другую ДМ зверху (калі машына таго вартая), каб не спяшаўся з продажам. І таргуйцеся, таргуйцеся! Германія, вядома, не Усход, дзе ўсе цэны збіваюцца ўдваяўтрая, але некалькі соцень долараў адваяваць у бюргераў не шкодна. Аўтамабіль за 200—300 марак тут — зусім не анекдот: вязіце, калі вы аматар металалому, але памятайце, што «растаможка» машыны, якая 10 і больш гадоў паездзіла па нямецкіх дарогах, вам абыдзецца амаль удвая даражэй, чым сімпатычных «фордзікаў» і «БМВэшак» 90-х. Але ніхто не забароніць вам зрабіць гэта, калі вы непапраўны патрыёт сваёй краіны: зэканомленае ў Германіі асядзе ў нашай дзяржаўнай кішэні. І яшчэ раз: не забудзьцеся, што кроў машыны — бензін. Нездарма практычныя немцы так хуценька асвойваюць невялікія аўто з малым расходам паліва. Ва ўсходняй частцы Германіі зараз нават пануе настальгія па «Трабанту», які загадаў доўга жыць. Расход бензіну ў яго — 3,5 літра на 100 км. Выдатная манеўровасць. Сёння існуюць клубы прыхільнікаў «Трабанта», якія праводзяць з'езды.

Стаўшы некалькі гадоў таму галоўным асістэнтам персанальнага вадзіцеля (у штодзённым ужытку — муж), не магу ўтрымацца ад кароткага, але гучнага аўтарскага гімна славутым нямецкім аўтабанам, пра якія даводзілася многа чуць. Не буду пісаць пра недасягальнае для нас пры любых дарожных зборах — дарогі без ямак, жудасных «нестыковак» паміж старымі ўчасткамі і плямамі новага асфальту, без граду каменняў, што ляціць у ветравое шкло пасля таго, як на трасе завіхаліся рамонтнікі. Ну не будзе ў нас такога ніколі, пакуль трасу «Мінск — Магілёў», да прыкладу, старанна цыруюць да ўрачыстага праезду дажынкаўскага картэжа, а потым надоўга забываюць.



Маёй «зялёнай» душы лагодна ад іншага: дэталёвай прадуманасці любой дробязі, што дае магчымасць пазбавіцца антаганізму паміж усё растучымі скорасцямі і ўсім жывым абапал аўтабана, уключаючы чалавека. Праедзьце 200—300 км па любой нашай дарозе, і вам абавязкова сустрэнуцца забітыя каты, сабакі, летам — вожыкі і ваверкі. Настрой псуецца адразу, ды і небяспечна. У Германіі ўсе скорасныя дарогі агароджаны сеткаю. Калі аўтабан пралягае праз населены пункт, то яго жыхары не пакутуюць ад равучых рухавікоў — паабал дарогі ўзведзены высокія сценкі, якія паглынаюць шум. Калі такая сценка зроблена з празрыстага матэрыялу, то яна абавязкова павінна быць размаляваная — каб птушкі маглі яе заўважыць і не разбіцца. На раздзяляльнай паласе паміж двума процілеглымі патокамі руху пасаджаны кусцікі — для паглынання святла ад фараў сустрэчных машын ноччу. Пры вялізнай скорасці — а на крайняй злева паласе гэта пад 200 км — важна ўсё. Бо пры такіх скорасцях наступствы аварый жудасныя: сутыкаецца некалькі дзесяткаў машын, і толькі высокая вадзіцельская дысцыпліна робіць такія надзвычайныя здарэнні рэдкімі. Дарэчы, для таго, каб ездзіць па нямецкіх дарогах са скорасцю 100 і больш кіламетраў, вадзіцелям нашых аўтобусаў неабходна здаваць спецыяльны экзамен у паліцыі. Працэдура платная, таму мы трымаем 80: куды спяшацца?

А спяшацца іншы раз трэба, бо ў высокіх дасягненнях германскай аўтамабільнай цывілізацыі ёсць выдаткі: такія «пробкі», якія нам дома і не сніліся — на некалькі гадзін. Эфір перапоўнены папярэджаннямі для чалавека за рулём накшталт «На трасе Дортмунд — Дзюсельдорф пробка «драй кіламетэр». І толькі паспявай мяняць нумары дарог! Вось дзе нарэшце ты можаш сустрэць нямецкага паліцэйскага, які параіць табе своечасова перастроіцца на маршы і аб'ехаць пробку ці аварыю. Скорасць на аўтабанах яны замяраюць вельмі рэдка, а вось на прыватных дарогах з абмежаваннямі вы можаце задаволіць сваю настальгію па радзіме і ўбачыць служывага з радарам. І не дай вам Бог нешта парушыць: кішэні імгненна становяцца лёгкімі, а ад слёз ці прапаноў «дамовіцца» сітуацыя можа толькі катастрафічна пагоршыцца.

**Людміла РЫЖАНКОВА.**

## Нядзеля, 11 лютага

*(Заканчэнне. Пачатак на 5, 6, 7-й стар.)*

(Заканчэнне. Пачатак на 5, 6, 7-й стар.)

### БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

**7.05** «Нясвіжскія адлюстраванні». Дак. фільм.
**7.25** «Жулі Ляско».
**9.00, 15.00** Навіны.
**9.15** «Легенда пра Беласнежку» Заключная серыя.
**9.40** «Кувадла». 2-я серыя.
**10.10** «Усё нармальна, мама!».
**10.35** «Прэм'ер-парад».
**11.05** «Вялікае снеданне».
**11.30** Арсенал.
**12.00** Чэмпіянат свету па біятлону. Эстафета 4 х 7,5 км. Мужчыны.
**13.30** Мультфільм.
**13.50** «На грэбені хвалі».
**14.35** 25-ы кадр.
**15.10** «Сустрэча ў Траецкім» з Аляксандрам Дамарацкім.
**15.35** Крымінальнае дасье.
**16.00** Мультфільм.
**16.25** Хакей. Алімпійскі адборачны турнір. Беларусь — Нарвегія.
**19.05** Планета «АРТ».
**19.40** Тэлебарометр.
**20.00** Рэзананс.
**21.00** Спорт-кур'ер.
**21.20** Драма «Леапард».
**23.55** Міжнародны турнір па вольнай барацьбе на прызы Аляксандра Мядзведзя.

### ГРТ

**6.45** Слова пастыра.
**7.00, 9.00, 14.00, 17.00** Навіны.
**7.10** Армейскі магазін.
**7.40** «Аладзін».
**8.05** Ранішняя зорка.
**9.10** «Бесталковыя нататкі».
**9.30** Пакуль усе дома.
**10.10** Фільм «Пчолка».
**11.45** «Ералаш».
**11.55** Ранішняя пошта.
**12.25** Клуб падарожнікаў.
**13.05** «Эх, Сямёнаўна!».
**13.45** Скарбы Крамля.
**14.10** «Кітайскі гарадавы».
**15.05** «Чып і Дэйл».
**15.35** Разумніцы і разумнікі.
**16.00** «Праўда пра акул».
**17.20** «Чужы бок». Спецрэпартаж.
**17.40** Фільм «Вышыня».
**19.25** Новы «Ералаш».
**19.35** «Максімальная рызыка».
**21.30** Часы.
**22.45** «На футболе».
**23.25** Фільм «Шчаслівых каляд, містэр Лоурэнс!».

### РАСІЯ

**8.40** «ТБ Бінга шоу».
**9.35** Добрай раніцы, краіна!
**10.05** «Аншлаг» і К.
**11.00** «Гарадок».
**11.30** Федэрацыя.
**12.10** Парламенцкая гадзіна.
**13.00** Весткі.
**13.20** Дыялогі пра жывёлу.
**14.20** Вакол свету.
**15.25** «Два раялі».
**16.20** Сам сабе рэжысёр.
**17.00** «Люстэрка».
**18.20** Камедыя. «Рускі бізнес».
**19.50** «Паветраны паляўнічы».
**21.35** Вострасюжэтны фільм «Гадзіны Пандоры».
**0.20** Біятлон. Чэмпіянат свету.

### КУЛЬТУРА

**9.05** «ДТА».
**9.30** «Казка пра закаханага маляра». Маст. фільм.
**10.45** Фільмы пра жывёлу.
**11.15** «55 гадоў у эфіры». Юбілейны канцэрт аркестра пад кіраўніцтвам Н. Някрасава.
**12.00** Бабуліны рэцэпты.
**12.15** «Спадчына чараўніка Бахрама». Мультфільм.
**12.35** Ток-шоу «Навобмацак». Аляксандр Дамагараў.
**13.00** «Мой Эрмітаж».
**13.30** Навіны культуры.
**13.45** Тэатральны летапіс XX стагоддзя.
**14.10** «Парыжскія тайны».
**15.05** Мультфільмы.
**15.35** Тым часам.
**16.05** Шэдэўры сусветнай музыкі.
**17.35** «Хэмфры Богарт».
**18.25** Абсерваторыя.
**18.50** Вячэрняя казка.
**19.00** «Ох, ужо гэтыя дзеткі». Мультсерыял.
**19.25** «Дзеці Ванюшына». Маст. фільм.
**21.00** Навіны культуры.
**21.20** Асабістыя ўспаміны пра вялікае жыццё.
**21.25** «Са столі».
**21.50** «Барыс Гадуноў». 2-я серыя.
**23.00** «Бедная Ліза». Мультфільм.

### НТБ

**8.15** «О, шчаслівчык!».
**9.15** Прыгодніцкі фільм «Выкраданне «Савойі».
**10.50** Мультфільм «Асеннія караблі».
**11.25** «Крымінальная Расія».
**11.55** Камедыя «Бум-2».
**13.55** «Трэці тайм».
**15.25** Вялікія бацькі.
**15.55** Без рэцэпта.
**16.25** Падарожжы натураліста.
**16.55** «Новыя прыгоды Нікіты».
**18.00** Вынікі.
**19.35** Лялькі.
**19.50** «Вуліцы разбітых ліхтароў».
**21.00** Камедыя «Пазбаўленыя дара мовы».
**22.55** Тэніс. Кубак Дэвіса. Славакія — Расія.

### СТБ

**7.00** Музычны канал.
**7.30** «Дыназаўрыкі».
**8.00** «Сімпсаны».
**8.30** «1/52». Спартыўны агляд.
**8.50** «Манітор».
**9.10** Камедыя «Трынаццаць крэслаў».
**11.00** «Вар'яцтва смелых». Дак. фільм, частка 6-я.
**11.30** «Элі Макбіл».
**12.30** Навіны СТБ.
**12.45** «Ваенная тайна».
**13.15** «Інтэрдзяўчынка», 2-я серыя.
**15.00** Міжнародныя спартыўныя навіны на СТБ.
**15.20** «Пахавальная каманда». Мультсерыял.
**15.40** «Дыназаўрыкі».
**16.15** Экстрэмальныя гульні.
**16.45** «Клуб «Белы папугай».
**17.15** Баявік «У палоне ў скорасці».
**19.30** СТБ—168 гадзін.
**20.00** «Сімпсаны».
**20.30** Баявік «Пераможца атрымлівае ўсё».
**22.30** Футбольны кур'ер.
**22.50** Меладрама «Горнічная з «Тытаніка».
**1.00** Начны музканал.

### ТБ 6

**7.45** Мультфільм «Востраў памылак».
**8.15** «Star Старт».
**8.50** «Шоу Бені Хіла».
**9.55** «Сетка».
**10.30** «Я ведаю ўсё!».
**11.30** «Усе ў сад!».
**12.00** Канон.
**12.25** Дарожны патруль.
**12.45** «Самыя гучныя злачынствы XX стагоддзя».
**13.45** «Амба-ТБ».
**14.25** «Вы — відавочца».
**15.25** «Я — супермадэль». Наомі Кэмпбел.
**16.40** Катастрофы тыдня.
**17.30** Дарожны патруль.
**17.45** Ваша музыка: група «Чё те надо».
**18.45** Фільм жахаў «Арызонскі пярэварацень».
**22.55** «Х-фактар».
**23.25** Творчы вечар Барыса Краснова. 2-я частка.

### ЕЎРАСПОРТ

**9.30** Экстрэмальныя віды спорту.
**10.00** Прыгоды. AdNatura.
**11.00** Лыжы. Кубак свету. Эстонія.
**11.45, 18.00** Біятлон. Першынство свету. Славенія.
**14.00, 23.30** Горныя лыжы. Першынство свету. Аўстрыя.
**15.00, 20.00** Канькабежны спорт. Чэмпіянат свету. Венгрыя.
**17.00, 19.00** Сані. Кубак свету. ЗША.
**21.00** Санны спорт. Першынство свету. Канада.
**22.00** Лёгкая атлетыка. Германія.
**23.00** Ралі. Чэмпіянат свету. Швецыя.
**0.00, 2.05** Навіны. Спортцэнтр.
**0.15** Усе спартыўныя спаборніцтвы. Самае лепшае!
**0.45** Тэніс. WTA. Францыя.

### АСТ

**9.00** «Людзі і горы».
**9.30** «Прадстаўляе Вялікі».
**10.00** «Вялікія рэкі».
**10.55** Самыя вар'яцкія прадказанні.
**11.05** Маладыя таленты.
**11.35** «З жыцця жывёлы...».
**11.50** «Галерэя». Н. Альтман.
**11.55** «Анталогія паэзіі». К. Бальмонт.
**12.00** «Пуцевадзіцель для гурманаў».
**12.30** «Алхімікі».
**13.25** «Чалавек і мора».
**13.50** Дабравест.
**14.20** Мультфільм «Пінгвіны».
**14.35** Дак. серыял «Чырвоныя зоркі».
**15.30** «Алхімікі».
**16.25** «Людзі і горы».
**16.55** Самыя вар'яцкія прадказанні.
**17.05** «Парадоксы гісторыі». «Кароль Пецярбургскай біржы».
**17.35** «Шчаслівага шляху!». Музычная праграма.
**17.50** «Дом акцёра». «Веніямін Радамысленскі».
**18.30** «Алхімікі».
**19.25** «Чалавек і мора».
**19.55** «Планета Х».
**20.25** Джаз і не толькі.
**20.55** «Куміры экрана». Л. Смірнова.
**21.25** Дэтэктыў «Крымінальны талент». 2-я серыя.
**22.55 4.55** Самыя вар'яцкія прадказанні.
**23.05** «Пуцевадзіцель для гурманаў».
**23.30** «І запальваем свечкі...». Е. Кузьміна.
**23.45** «Вялікія рэкі».
**0.40** Маст. фільм «Вечны муж». 2-я серыя.
**2.00** Без рэцэпта.
**2.20** «Старыя знаёмыя». Н. Джыгурда.
**2.50** «Галерэя». Н. Альтман.
**2.55** «Анталогія паэзіі». К. Бальмонт.
**3.00** Маст. фільм «Асабняк на Зялёнай».
**4.30** Музычная мазаіка

### ТБ ЦЭНТР

**7.50** «Фядорына гора». Мультфільм.
**8.00** «Чые ў лесе шышкі?». Мультфільм.
**8.15** «Адчаго, чаму?».
**8.55** «Свет дзікай прыроды».
**9.25** «Палявая пошта».
**10.00** Маскоўскі тыдзень.
**10.30** «Апошняя дарога». Маст. фільм.
**12.15** «Поні бегаюць па крузе». Мультфільм.
**12.25** «Запрашае Барыс Ноткін».
**13.00, 19.00, 23.15** Падзея.
**13.20** «21-ы кабінет».
**13.45** «Шырэй круг».
**14.30** «Палёт над «Гняздом глушца».
**15.00** «Сарміко». Мультфільм.
**15.20** «Птушка Тары». Мультфільм.
**15.30** «Камісар Наварo».
**17.10** «Слухаецца справа».
**18.00** «Пятнаццатае пасланне».
**19.25** Спартыўны экспрэс.
**20.00** Момант ісціны.
**20.45** «Аварыя — дачка мента». Маст. фільм.
**22.40** «Далікатэсы».
**23.30** Стопудовы хіт.

### ТНТ

**7.00** «Дзіўныя жывёлы».
**7.30** «Сышчыкі-аматары экстракласа».
**8.30** «Першыя асобы».
**9.00** Лялечнае шоу «ТэлеБом».
**9.30** Мультфільм «Мук-скараход».
**10.00** «Альпійская акадэмія».
**10.30** «Паляванне на Папялушку».
**11.40** Сустрэча з...
**12.30** «Дзіўная жывёла».
**13.00** Невядомая планета.
**13.30** Дак. серыял «Гісторыі багатых і вядомых».
**14.00** Суперхакей. Тыдзень НХЛ.
**15.00** «Сышчыкі-аматары экстра-класа».
**16.00** «На краі Сусвету-2».
**17.00** Прыгоды «Сёмая манета».
**19.05** Мультфільмы.
**19.30** «Сустрэча з...». Ірына Салтыкова.
**20.30** «Скрытай камерай».
**21.05** Аднойчы ўвечары.
**22.10** Тытаны рэстлінга на ТНТ.
**23.15** Хіт-парад на ТНТ.
**23.45** Жахі «Амерыканскі пярэварацень у Парыжы».

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, С. РАСОЛЬКА, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), Л. СВІДРЫЦКАЯ, В. ХУРСІК, С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: навінаў — 68-27-41, крымінальнай хронікі — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-27-57, культуры — 68-29-42, 68-27-51, пісьмаў — 68-28-27, 68-28-64, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; сакратарыята — 32-38-02, 68-28-15; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75; у Віцебску — 33-72-80, бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.* **«ДЛЯ ВАС»** *— 32-44-12*
*ФАКС: 68-27-79. html: www.zvyazda.minsk.by E-mail: info@zvyazda.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 70.611. Індэкс 63850.
Зак. № 633.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12